№ 4 (165)
Студзень 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





«Восеньскі настрой»

## Палемічна пра вядомае і малавядомае

***Нядаўна знаны наш краязнавец Міхась Маліноўскі «выбухнуў» ажно чатырма кніжнымі выданнямі. Два з іх, праўда, невялічкія – «Слуцкая брама, ты ў сэрцы маім» і пераклад «Песні пра Сокала» М. Горкага. Нават самая маленькая кніжка для краязнаўца важная: яна можа дайсці да многіх зацікаўленых людзей, зойме сваё месца на паліцы ці стале і будзе дапамагаць музейшчыку, бібліятэкару, настаўніку і проста дапытліваму чытачу рабіць сваю справу, будзе спрыяць глыбейшаму засваенню родных мясцінаў. Таму давайце выпускаць кніжкі любога аб'ёму і фармату, нават малым накладам (рэцэнзуемыя выйшлі ў Баранавічах па 299 асобнікаў) пра лакальныя мясціны, аб'екты і постаці. Гэта патрэбна найперш нам дзеля самапазнання і патрыятычнага самасцвярджэння.***

Што да выданняў М. Маліноўскага, то пераклад М. Горкага тут абыдзем: ён па-за нашай тэмай, ды і паэтычны ўзровень яго вельмі сціплы. Краязнаўчыя ж кніжкі шаноўнага Міхася Міхайлавіча цікавыя і багаццем матэрыялу, і, галоўнае, неардынарнасцю бачання выбітных асоб і з'яў. Гэты вопытны краязнавец мае заўсёды ўласны погляд аб прадмеце гаворкі, прычым і аб тым прадмеце, які набыў у навуковым ужытку ўстойлівае, замацаванае традыцыяй тлумачэнне. Пры гэтым М. Маліноўскі не галаслоўны ў сваіх меркаваннях і ацэнках, бо абапіраецца на шматлікія крыніцы, вядзе спрэчку з рознымі аўтарамі.

Згаданая вышэй «Слуцкая брама...» – разгорнуты гістарычна-краязнаўчы нарыс пра вядомы барочны архітэктурны помнік, што афармляў уезд у Нясвіж і стаў паступова значным акцэнтам будаўнічай кампазіцыі гэтага горада, які сёння, дзякуй Богу, займае ўсё большую увагу турыстаў. Ім, у першую чаргу, і было б цікава пазнаёміцца з кніжкай. Тым больш, што не толькі сама брама разглядаецца аўтарам. У поле яго зроку трапляюць і іншыя аб'екты старажытнага беларускага горада, што быў калісьці вялікім еўрапейскім культурным цэнтрам. Аўтар заўважае, напрыклад, якія каштоўнасці перавозіліся і якія выдатныя асобы выязджалі праз яе ў вялікі свет. Варта было б прадоўжыць гэты пералік, што толькі ўзбагаціла б выданне і было б карысным для сучасных наведвальнікаў Нясвіжа.

Дзве іншыя кніжкі М. Маліноўскага, выдадзеныя традыцыйным фарматам, – пра Марылю Верашчаку і Паўлюка Багрыма.

*(Заканчэнне на с. 2)*

*Усякая краіна абавязана сваім непаўторным воблікам народу*

*Ж. Бернанос*

## Справаздача да юбілею



«Светлая бабуля»

Выстава фатаграфіі «Скрыжаванні» адкрылася 18 студзеня 2007 года ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Аўтарам з'яўляецца Яўген Казюля – старшыня праўлення Народнага фотаклуба «Мінск», член рады аб'яднання «Фотамастацтва», адзін са старэйшых фатографаў Беларусі, удзельнік 98 рэспубліканскіх, рэгіянальных і міжнародных фотавыстаў, аўтар персанальных выстаў «Хатынь» (1973), «Мая Беларусь» (1978), «Вытокі» (1996), «Браслаўшчына» (1998), «Нёманскі шлях» (2000), «Ад прадзедаў спакон вякоў...» (2004), сааўтар выставы «Час цішыні» (1999) разам з Марэкам Далецкім (Польшча) і Загвардам Шмітцам (Германія).

Некаторыя з гэтых выстаў праходзілі ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Фотавыстава «Скрыжаванні» – яшчэ адзін сумесны праект музея з Беларускім грамадскім аб'яднаннем «Фотамастацтва» і Народным фотаклубам «Мінск», своеасаблівая справаздача аўтара да свайго 70-годдзя. Яна будзе адкрыта да 28 студзеня.

*Наш кар.*



У в. Вяркуды Ушацкага раёна



# Спявай, душа!

***Што ні край, то звычай, што ні вёска, то песня. Заглянi ў любы куточак Беларусі – сустрэнешся з цудоўнымі краявідамі, прыгожымі, працавітымі людзьмі, улюбёнымі ў народнае мастацтва, абрад, танец, песню, жарт.***

Фальклорныя калектывы, народныя хоры, вакальныя ансамблі, танцоры і спевакі ў гарадах, раёнах, вёсках цёпла і з лепшымі песнямі запрашаюць на здымкі Белтэлерадыёкампанію, канал ЛАД, каб парадаваць тэлегледачоў сваім мастацтвам у цудоўнай перадачы «Спявай, душа!», над якой працуюць сапраўдныя прафесіяналы, рэжысёры, сцэнарысты, мастакі, аператары, уся вялікая здымачная група.

У любое надвор’е яны едуць, здымаюць на прыродзе і ў памяшканні. З задавальненнем у здымках прымаюць удзел звычайныя людзі, што прыйшлі паглядзець, як ствараецца тэлеперадача, а таксама разам танчыць і спяваць. Вельмі добра, што ў здымках удзельнічаюць самадзейныя артысты любога ўзросту, старэйшыя маладым перадаюць свой вопыт, вучаць шанаваць народныя традыцыі, любіць родную прыроду, свой край.

Геаграфія здымкаў – уся Беларусь. І калі вы, шаноўныя аматары народнай творчасці, лічыце, што ў вашай вёсцы, раёне ёсць таленты – запрашайце ствральнікаў тэлеперадачы «Спявай, душа!» Яны прыедуць да вас.

А яшчэ дзякуем усім установам культуры за дапамогу ў стварэнні перадачы.

Прапаную некалькі фотаздымкаў, зробленых на здымачных пляцоўках Гомельшчыны.

*Мікола КОТАЎ, удзельнік тэлеперадачы «Спявай, душа!»*




## Тэатр «Зьніч» запрашае

Напрыканцы гэтага месяца ў беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра «Зьніч» пройдзе спектакль для дзяцей **«Маленькі анёлак»**. Гэта філасофская казка паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд, якую ў выглядзе п’есы выклаў Сяргей Кавалёў. Сюжэт гісторыі даволі просты: маленькі анёл сыходзіць на зямлю ў пошуках самай няшчаснай істоты сярод жывёлаў. Выканаўца – Раіса Астрадзінава. Пачнецца спектакль **удзень 29 студзеня.**



*Спектакль «Маленькі анёлак»*

Таго ж дня **а 19-й гадзіне** пачнецца монаспектакль **«Нобель – барвяны ўладар»**. Ва ўсіх ролях – заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў.

У аснову пастаноўкі пакладзена аповесць Уладзіміра Караткевіча «Сівая легенда». Глыбокі знаўца айчыннай гісторыі, пісьменнік стварае рамантычна-філасофскі вобраз мінуўшчыны Беларусі...

*Па дадатковую інфармацыю можна звяртацца ў тэатр па тэлефонах 231-75-53, 615-26-79, 615-28-99.*

*Прадаўжальнікі*

## Удзельніца выставы...



*У дзіцячай бібліятэцы № 2 г. Мінска прайшла цікавая выстава. Менавіта на яе адкрыцці я пазнаёміўся з адной удзельніцай выставы. Гэта – Ніна Цімафееўна Буцэнка. Яе маці была працавітай і творчай асобай. Выхавала 5 дзяцей. Пасля сканчэння ў 1968 годзе Маскоўскага кааператыўнага інстытута некаторы час працавала эканамістам у райпатрэбсаюзе Рэчыцы і Веткі. У 1992 годзе жанчыне зрабілі цяжкую аперацыю. У 1999-м пасля смерці мужа пачала шукаць сяброў і паплечнікаў, якія захапляюцца вышыўкай. Пазнаёмілася з Людмілай Аляксандраўнай Кузьміных, Валянцінай Васільеўнай Івановай, Надзеяй Мікалаеўнай Архіпавай. Ніна Буцэнка засвоіла філейную вышыўку, вышывае гладдзю. Яе працы цікавяць не толькі беларускага гледача, але і тых, хто жыве за межамі краіны. А яшчэ Ніна Цімафееўна марыць, што яе дзве дачкі таксама (адна жыве ў Гродне і працуе галоўным бухгалтарам, а другая – бухгалтарам у Ветцы) калі-небудзь будуць удзельнічаць, як і маці, у выставах вышыўкі.*

***Аляксей ШАЛАХОЎСКІ, г. Мінск***

## Палемічна пра вядомае і малавядомае

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1)*

Каханая А. Міцкевіча Марыля Верашчака, апетая ў яго пранікнёнай лірыцы, даўно цікавіць даследчыкаў, краязнаўцаў. Ды пішуць пра яе ў нас чамусьці мімаходам, эпізадычна. М. Маліноўскі даволі грунтоўна характарызуе сваю гераіню, абапіраючыся на шматлікія сведчанні яе сучаснікаў, на сённяшніх навукоўцаў, выкарыстоўваючы вершы, прысвечаныя ёй. Аўтар імкнецца высветліць найперш духоўна-маральны воблік каханай вялікага паэта, даць ёй адпаведную ацэнку, зыходзячы з яе пачуццяў да А. Міцкевіча. Палемізуючы з рознымі даследчыкамі, М. Маліноўскі рашуча адкідае любыя папрокі ў яе адрас, любыя меркаванні пра непаслядоўнасць яе адносін да паэта і адназначна трактуе Марылю Верашчаку як эталон маральнай чысціні і шляхетнасці (Міцкевіча ж успрымае як аматара любоўных прыгод, не вартага пачуццяў яго абранніцы). Пытанне гэта, безумоўна, вельмі складанае. Трэба ўлічваць і тагачасныя шляхецкія норавы, і лад жыцця туганавіцкага асяродку, у якім расла і выхоўвалася будучая графіня Путкамер (пра асяродак аўтар кніжкі піша), і розныя пазіцыі ў гэтым пытанні шматлікіх даследчыкаў А. Міцкевіча. У прынцыпе, М. Маліноўскі мае рацыю, тым больш, што глядзіць на Марылю часцей вачыма вялікага паэта, які сваё захапленне каханай выказаў у дасканалай мастацкай форме. І ўсё ж... Марыля, напэўна, не з’яўлялася анёлам: будучы заручанай з іншым, нязменна трымала каля сябе закаханага паэта («я прыношу табе столькі пакут...») і нават прызначала яму начныя спатканні ў лесе. Можа, задавальняла такім чынам сваё самалюбства? Хто спасцігне таемныя рухі жаночага сэрца?

Добра, што М. Маліноўскі нідзе не забываецца пра краязнаўчы кірунак выдання – засяроджвае ўвагу на мясцінах, дзе жыла, бывала Марыля Верашчака, фіксуе іх цяперашняе месцазнаходжанне. Гэта ж наша гістарычна-культурная постаць – і паводле роду, і паводле характэрнасці прозвішча.

Кніга М. Маліноўскага «Павел Іосіфавіч Багрым (Паўлюк Багрым). Легенды, праўда, загадкі» наскрозь палемічная па сваёй ідэі. Таксама, безумоўна, краязнаўчая: тут усё трымаецца вакол вёскі Крошын (Крашын), якую абяссмерціў легендарны беларускі паэт Паўлюк Багрым. Аўтар кнігі даводзіць, што рэальны Павел Іосіфавіч Багрым не быў паэтам і не зведаў салдатчыны, якую яму прыпісваюць, а пражыў век у сваёй вёсцы, у якую яго нашчадкі не вярнуліся пасля бежанства ў Першую сусветную вайну. Публікатара ж знакамітага верша «Заграй, заграй, хлопча малы...», што з’яўляецца шэдэўрам беларускай лірыкі XIX стагоддзя, М. Маліноўскі падазрае ў містыфікацыі. Нават лічыць, што ён, Ігнат Яцкоўскі, змясціўшы верш у сваіх мемуарах «Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды» (1854 і 1858) сам, верагодна, і напісаў яго. Карацей, разгортвае вострую літаратурна-краязнаўчую інтрыгу, у якую ўцягвае шматлікіх даследчыкаў, якія пісалі пра П. Багрыма. Сапраўды, мы зусім мала ведаем пра аўтара хрэстаматыйнага верша. Да таго ж ёсць некаторыя нестыкоўкі тактаў у мемуарах І. Яцкоўскага, дакументах, што тычацца П. Багрыма, і ў змесце верша. Іх, хаця і скупа, але пераканаўча тлумачыць Г. Кісялёў (Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 1977, с. 191). Аўтар жа рэцэнзуемай кнігі на іх, па сутнасці, будуе сваю даволі стройную канцэпцыю разбурэння міфа П. Багрыма. Не ўступаючы тут у палеміку з М. Маліноўскім (тым больш, што яго аргументы пераважна слушныя), можам толькі пажадаць выказацца па пытанні розным людзям у рамках нейкага «круглага стала». Хаця і калектыўнае абмеркаванне, напэўна, не прывядзе да адназначных вынікаў. Міфалагічнасць постаці П. Багрыма ўсё ж застанецца.




***Паўстаюць пытанні. А ці патрэбны нам сёння міфы? Гістарычныя, літаратурныя, краязнаўчыя? Напэўна, патрэбныя. Яны запаўняюць белыя плямы нашай спадчыны, у якой надта многа засталося няяснага, аздабляюць нацыянальную даўніну, узбагачаюць духоўна сучасніка. Аднак патрэбна і ісціна, праўда пра мінулае. Пагадзіць легенду і рэальнасць, прыняць іх суіснаванне заўсёды было нялёгка ў розных галінах народазнаўства. Вось і М. Маліноўскі патрабуе прызнаваць лёс і творчасць П. Багрыма толькі на падставе дакументальных крыніц. Такая пазіцыя пры ўсёй яе катэгарычнасці апраўданая: яна вылучае на першы план навуковыя крытэрыі ўспрымання з’яў культуры, заахвочвае пошук. Але гэта не адзіная пазіцыя для трактоўкі такой складанай і разам з тым далікатнай з’явы, што ствараецца трыядай Крошын – П. Багрым – верш «Заграй, заграй, хлопча малы...».***

*Аляксей ПЯТКЕВІЧ*



*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*

***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ТРАКТ** – адміністрацыйная адзінка ў ВКЛ. Назва паходзіць ад гасцінца, гандлёвай дарогі, тракту. У Літве трактам называліся вёскі, што знаходзіліся на гасцінцах пасярод лесу. Падзел на тракты доўга захоўваўся ў Жамойці, дзе такім словам называліся і паветы. Трактам называлася і адміністрацыйная адзінка ў Беларусі ў XVI–XVIII стст., размяшчалася на землях валасцей з сельскімі насельнікамі, але аб'ядноўвала толькі шляхецкія вёскі і засценкі. Некалькі трактаў было ва ўладанні Радзівілаў. Вядомыя многія тракты, напрыклад, у Слуцкім княстве.

**ТРАНСУМПТ** – выпіска з арыгінала, засведчаная копія судовай пастановы ці іншага дакумента.

**ТРОЯК** – (ад лац. трайны грош) – срэбная, білонная і медная манета ў ВКЛ, Польшчы. Упершыню выпушчаны ў 1528 г. у Кракаве, а з 1546 г. чаканіўся ў Вільні. На Беларусі быў ва ўжытку ў XVI–XVII стст.

**ТРЫБУНАЛ ВКЛ** (Галоўны Літоўскі трыбунал) – вышэйшы апеляцыйны суд княства, пастановы якога мелі сілу пастаноў сейма. Створаны ў 1581 г., складаўся з 46 суддзяў-дэпутатаў, якія выбіраліся на сейміках са шляхты па 2 ад кожнага павета тэрмінам на 1 год (з 1588-га выбіраліся яшчэ па 3 дэпутаты ад Жамойці). Разглядаў апеляцыі на рашэнні земскіх, замкавых і падкаморскіх судоў, а таксама скаргі на рашэнні павятовай адміністрацыі. Па 1-й інстанцыі разглядаў справы аб неналежным выкананні старостамі і замкавымі ўраднікамі сваіх абавязкаў пры судаводстве. Да юрысдыкцыі трыбунала адносіліся таксама справы духоўных асоб; пры разглядзе такіх спраў удзельнічалі дэпутаты ад духавенства. Сесіі трыбунала праходзілі пад старшынствам выбранага маршалка, пастановы прымаліся на аснове Статута, сеймавых канстытуцый і звычаёвага права большасцю галасоў. Месцам сесій трыбунала былі Вільня (штогод), Менск і Навагародак (па чарзе праз год). Да 1588 г. сесіі праходзілі ў Троках.

**ТУБЫЛЬЦЫ** – у ВКЛ карэнныя насельнікі пэўнай мясцовасці. У юрыдычный і палітычнай літаратуры XVI–XVIII стст. тубыльцы – шляхта ВКЛ («Тубольцы і родзічы таго панства», г.зн. гэтай дзяржавы). Так, яшчэ ў Статуце ВКЛ 1529 г. было заяўлена, што маёнткі і пасады ў ВКЛ нікому з чужаземцаў даваццa не будуць, «але толко прирожоным а тубылцом тых земль наших Великого князьства»). Гэтае падцверджана і Статутамі ВКЛ 1566 і 1588 гг.: прыезджым, у т.л. і з саюзнай Польшчы, атрымліваць у ВКЛ пасады і маёнткі не дазвалялася.

# Дарога на хутар...



***Яшчэ раніцай ляжаў у ложку, слухаў, як за акном лютуюць зімовыя дождж і вецер, ды радаваўся цёплай коўдры, мяккай падушцы. Нават не думаў, што ўжо ўдзень, змагаючыся з гэтым ветрам, пераскокваючы праз лужыны, з вялікай ахвотай буду крочыць сярод поля па гразкай дарозе на месца былога хутара. А для гэтага дастаткова было толькі пасядзець гадзіну-другую ў цёплай, утульнай хаце і паслухаць цікавы аповед гаспадыні, гасціннай і гаваркой жанчыны-паляшучкі, пра мінулае гэтых мясцін...***

*Ад сяла Рэчыцы (афіцыйна – працоўнага пасёлка), што ў Столінскім раёне, да лесу амаль усе дарогі вядуць праз мясціну, дзе да нядаўняга часу знаходзіўся хутар. Яе тутэйшыя жыхары называюць Сімоной. Пры гэтым слова «хутар» амаль ніколі не ўжываюць. Кажуць проста – Сімоной: пайшоў праз Сімоной, бачыў Сімоной і г.д. Цяпер такая назва больш за ўсё адпавядае рэчаіснасці, бо хутара ўжо няма, ад яго застаўся толькі сад. А яшчэ зусім нядаўна там стаяла хата.*

*Памятаю з дзяцінства, як мяне з братам бацькі пужалі, кажучы, што тут жыве Баба-Ёжка. І калі ў лесе падчас збору грыбоў, а асабліва ягад, намі авалодвала лянота, пагрозы прывязаць да дрэва разам з напамінам пра Бабу-Ёжку былі самымі дзейснымі сродкамі. Пасля іх лянота ўмомант знікала. Але ніякай Бабы-Ёжкі, вядома, не было. А жыла там больш за 50 гадоў вялікая працалюбівая сям'я.*

*З той сям'і цяпер амаль нікога не засталося. Таму быў вельмі задаволены, калі пасля непрацяглых пошукаў і просьбаў расказаць пра мінулае хутара, сядзеў ў хаце Надзеі Сямёнаўны Біляй, 1941 г.н., і слухаў яе аповед.*

## *Кожнаму работа, кожнаму забота*

– Прозвішча наша было Бабіч. А хутар атрымаў назву ад імя майго бацькі. Сэмэн–Сямён–Сімон. Таму і хутар Сімоноў. Яго бацька таксама быў Сямён, толькі дзед Іван, а потым зноў усе Сямёны. Мой дзед і прадзед былі войтамі. На нас і цяпер кажуць Сімоны ці вуйтові (войтавыя).

У 39-ым, калі прыходзілі Саветы, палякі пачалі хутка адыходзіць і прадаваць зямлю. Мой бацька Сямён Сямёнавіч Бабіч за мяшочак золата ў тым годзе купіў 5 га зямлі і 3 га лесу з лугам. Бацька вырашыў жыць на хутары, бо дзяцей у сям'і было багата і ў сяле іх цяжка гадаваць. Перавезлі дзедаву хату. Яна складалася з дзвюх частак – то колішнія хаты. Бацька быў майстар – усё рабіў сам. Працавалі з гадзін пяці раніцы. Спалі на саломе. Гэта цяпер моладзь спіць да 10-ці. А раней да гэтага часу мы ўжо напрацуемся. Парадак быў у сям'і вельмі строгі. Кожнаму была работа, кожнаму забота. Да вайны стаяла хата і хлеў. Быў у нас там калодзеж, кар'ер, дзе карасікі плавалі. У сям'і багата хлопцаў, таму яны таксама пралі і ткалі, бо дзяўчат было мала. Бацька да вайны трымаў пчолы ў калодах, якія ставіў на дрэвы.

## *Так нас не расстралялі*

– У 1941 годзе, як прыйшлі немцы, мы з маці былі на хутары. Бацьку забралі ў армію. Але праз некаторы час ён прыйшоў дадому на пабыўку, мо на 2 тыдні. Адпусцілі, бо па ўзросце пакуль не падыходзіў для перадавой. А старэйшага брата пагналі ў Германію на працу. Наш дзядзька (мамін брат) быў партызанам. Калі партызаны ўзарвалі мост, то іх потым немцы пералавілі і забілі. Нас з-за гэтага таксама ледзь не расстралялі. Аднойчы, як расказвала маці, дзесьці ў 5 гадзін раніцы немцы акружылі хату, вывелі нас на двор і паставілі да сцяны – хацелі расстрэльваць. Там былі і рускія, бо добра гаварылі па-руску. Падцягнулі некалькі кулямётаў. Маці перахрысцілася і кажа: «Як так жыць, то страляйце». Калі ж бацьку забралі на фронт, то пачалася галадоўка. Салдаты ўжо перацягнулі затворы. Але падышоў перакладчык і сказаў ім нешта. Так нас не расстралялі. Загадалі выбірацца з хутара. Але некалькі тыдняў мы яшчэ пажылі тут. Немцы прымушалі маці гатаваць для іх ежу, смажыць накрадзенае ў людзей мяса (курэй, свіней, гусей). Маці яго спецыяльна то недасмажвала, то аблівала вадой, каб немцы патруціліся. Такія дзеянні былі раскрыты. Нас хацелі забіць. Але не зрабілі гэтага з-за аднаго немца, у якога таксама былі малыя дзеці. Ён, бывала, як пап'юць каву ці чай (пілі заўсёды з цукрам), клаў свой кавалачак у кішэню, а потым, калі ніхто не бачыў, хаваў яго мне пад падушку ў калыску.

Потым немцы адвезлі нас ў бежанцы, у Першамайск. Там была галеча. А на хутары засталося закапанае збожжа. Дык маці таемна хадзіла праз лес і выкопвала яго, а таксама сеяла тытунь. Потым гэты тытунь вазіла ў Гродна мяняць на мыла і соль.

Быў такі выпадак. Маці ішла праз лес на хутар па збожжа. Бачыць, на пне сядзіць немец. Яна ціхенька падкралася да яго і як закрычала знянацку: «Хэндэ хох!». Той так і ўскочыў з узнятымі ўгору рукамі. А аўтамат стаяў побач. Як пабачыў, што гэта жанчына, дык ухапіў яго і хацеў стрэліць. Маці крыху ведала нямецкую мову, таму пачала тлумачыць, што ў сям'і 6 дзяцей, іх трэба карміць. Ён не стрэліў.

Як былі бежанцамі, дык гаспадары, у якіх мы жылі, трымалі ў клуні баранаў з вялікімі закручанымі рагамі. Браты саджалі мяне на барана і казалі, каб трымалася за гэтыя рогі.

Маці мяне любіла і доўга не магла адвучыць ад грудзей. Бывала, пабегаю, а потым прашу ў маці малака з грудзей. Дык жанчыны, смеючыся, вучылі мяне казаць па-польску: «Дзенькую мамцы за цыцочку».

Увесь час з намі жыў дзед, які рана застаўся ўдаўцом. Ён мяне любіў, бо я была малая. Дзед насіў вялікую, доўгую барада. Мне падабалася яе расчэсваць, седзячы ў дзеда на каленях. Памятаю, як ён памёр. Ляжыць на лаве, голы, бо апрануць не было ў што. Я тады не разумела, што дзед памёр. Падыду да яго, тыцну пальцам у жывот – скура сціснецца, а потым адыдзе. А я крычу: «Маці, дзед жывы – жывот шывеліцца!»

У канцы вайны, як немцы адступалі, маці загадвала нам, дзецям, увечары не паліць агонь, бо нямецкія самалёты, калі заўважалі агеньчык у хатах, кідалі на яго бомбы. Але ўсё ж аднойчы запалілі. Нам падалося, што хата разваліцца... Варонка ад ганку была за метраў пяць. Мы здзіўляліся, як толькі хата засталася стаяць. Браты залазілі ў варонку, дык яна была глыбінёю вышэй за іх рост. Шмат асколкаў засела ў сцяне хаты. Некаторыя нават выцягвалі вяроўкамі.

## *Што бандзюкоў было*

– Пасля вайны таксама было нялёгка. Бацька на фронце быў паранены пад Гданьскам. Прыйшоў з вайны неяк адразу. На Усход ваяваць не адправілі. Паехаў ён неяк ў Дубровіцу купляць каня. Было гэта адразу пасля вайны. А тады, што гэтых бандзюкоў, бэндэраўцаў ды бульбаўцаў хадзіла па вёсках. Стралялі ўсіх калектывізатараў. Мы самі ўступілі ў калгас толькі ў 1949 годзе, бо жылі на хутары і баяліся, што нас заб'юць. Дык вось паехаў бацька купляць каня ў Дубровіцу. Папрасіўся ў адной жанчыны пераначаваць. А яе муж быў сакратаром у сельсавеце. Гэта ж трэба было так трапіць! Калі сабраліся спаць, нехта пачаў вельмі моцна грукаць у дзверы. Пабаяліся адчыняць – залезлі на печ. Бэндэраўцы ўварваліся... Але жанчына сказала, што гэта брат прыехаў з Гарыні. Так і выратаваўся бацька, бо тыя шукалі яе мужа. А бацька потым купіў у Дубровіцы добрую кабылу нямецкай пароды. Мы адразу зажылі: сеялі, бацька пачаў зноў трымаць пчол, купілі кароўчынку. Была ў нас хата, клуня, хлеў, сэльнік (там стаяла ступа, якой таўклі проса, былі жорны), погрэба.



Бацька знайшоў у нямецкіх акопах наш дубовы стол, які зрабіў яшчэ мой дзед. Таму сталу 130 год. Ён па-ранейшаму добры. Стаіць цяпер у хаце на кухні.

Як нас раскулачвалі пасля вайны, то забралі 2 каня, 2 вазы, 2-ое санок, карову, а зямлі засталося толькі 1 га і 25 сотак. А які падатак зрабілі! Быў у нас старшынёй калгаса Калілец (прыслалі яго) – труцень, бандыт быў таксама добры. Ён і яшчэ нехта, як выганялі з хутароў, раскурожылі нашу хату: пабурылі печ, паламалі сталярку (вокны, дзверы). Маці потым з-за гэтых скразнякоў захварэла. Бацька быў чалавекам адукаваным. У Століне знайшоў нейкага чалавека, напісалі ліст. Потым гэтага Калілца выклікалі ў райвыканкам. Пасля тыя, хто раскурожыў хату, давалі бацьку сталярку, каб сам паставіў. А ён сказаў: «Як разламалі, так і стаўце».

Потым браты ды сёстры пажаніліся, павыходзілі замуж. Усіх нас дзяцей ў сям'і было 10. Маці памерла ў 1967 годзе. Бацька, як і дзед, таксама рана застаўся ўдаўцом. Памёр у 1990 годзе. Жыў на хутары. Цяпер там толькі сад застаўся.

***І як пасля такога цікавага аповеду не схадзіць на месца былога хутара, пастаяць там, узгадаць словы Надзеі Сямёнаўны, уявіць сабе тыя, здаецца, нядаўнія падзеі? Ды і надвор'е для гэтага самае найлепшае: навокал – ні душы. Толькі вецер гойсае сярод дрэў.***

***Пад дрэвамі – пластмасавыя, шкляныя бутэлькі, паперы. «Не забываецца» мясцовы люд на сваё мінулае, «не знікла» гістарычная памяць... Надзея Сямёнаўна казала, што ніхто з родных не хоча працаваць на гэтай зямлі, хаця яна добрая, урадлівая. А колькі такіх колішніх хутароў на Беларусі...***

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***



*Узоры грознай зброі каля помніка героям-абаронцам краю і занядбаны адзін з уваходаў на могілкі. Так і памятаем ды ўшаноўваем – па-рознаму...*



***Ёсць такі паэт, які мяне папрасіў: мая мара – надрукавацца ў «Краязнаўчай газеце». Я дазволіў сабе ўсміхнуцца: вось некалі, у 1960-х, мая мара была надрукавацца ў «ЛіМе», «Маладосці» і «Полымі» – выданнях, дзе можна было сцвердзіць сваё літаратурнае майстэрства.***

***Ды Алесь Макрацоў не ўсміхнуўся: дазвольце заявіць пра сябе як паэта ў Вас. І не толькі традыцыйнымі, але і наватарскімі вершамі. Тут – ужо, сябры, і гонар за тое выданне, дзе працуеш. Я не паэт, але ўважліва прачытаў паэтычныя творы паэта і для сябе адкрыў: і ў традыцыйнасці, і ў наватарстве ён цікавы.***

***Для чытача паведамім: Аляксандр (Алесь) Макрацоў нарадзіўся ў 1956 годзе ў Быхаўскім раёне, па прафесіі каморнік, будаўнік аўтадарог. І – паэт, які любіць не толькі пуцявіны-шляхі, але і краязнаўчую тэматыку.***

***Давайце бліжэй пазнаёмімся з ім.***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

## Алесь МАКРАЦОЎ

*Будаваўся<br>рай для цела,<br>руйнаваўся<br>храм душы...*

* * *

*Паранены небам<br>сцякае,<br>нібыта крывёю,<br>вершамі...*

* * *

*Адзіная лазня,<br>якая<br>змывае з душы бруд, –<br>лазня пакаяння...*

* * *

*Навошта ведаць<br>тое чалавеку,<br>што ведаць варта<br>Богу аднаму?..*

* * *

*Жыццё – гэта плынь<br>паміж берагоў<br>Дабра і Зла.*

*Душа ў целе –<br>Лодачнік у лодцы.*

*Страшней,<br>чым згубіць лодку, –<br>выйсці на бераг Зла.*

* * *

*Як людзі<br>розняцца,<br>так розняцца<br>народы...*

* * *

*Гутарым<br>па-беларуску:<br>гаварыць<br>па-расейску<br>беларусам –<br>сорамна...*

* * *

*Душа мая –<br>абаронца<br>вежы,<br>асаджанай часам...*

### Беларуская гаць

*Народ беларускі<br>над багнай нябыту<br>трымае насціл:<br>Быкаў, Караткевіч,<br>Геніюш, Колас,<br>Купала, Ластоўскі,<br>Луцкевіч, Багдановіч,<br>Багушэвіч, Манюшка,<br>Дунін-Марцінкевіч,<br>Каліноўскі, Міцкевіч,<br>Касцюшка, Радзівіл,<br>Сапега, Будны,<br>Скарына, Гусоўскі,<br>Астрожскі, Вітаўт,<br>Кірыла, Еўфрасіння,<br>Усяслаў, Рагвалод...<br>Велічныя бярвёны<br>прызваных Вечнасцю<br>будаўнікоў<br>беларускай гаці.*

* * *

*Саюз<br>расейскага дома<br>з беларускімі<br>сенцамі...*

**Школьнае краязнаўства**

***Летась лунінецкія вучаніцы Наташа Мізюрына і Каця Ягошына напісалі аповесць. Далі пачытаць равесніцам. Твор захапіў аднагодкаў, і яны з задавальненнем дапамаглі перапісаць чарнавы варыянт у некалькі чыстых сшыткаў. Гэты рукапіс вучаніцы прынеслі мне на рэцэнзію.***

***Сюжэт аповесці просты і складаны, часовыя рамкі яго ахопліваюць каля дзесятка гадоў. Дзве гераіні яшчэ школьніцамі знаёмяцца з юнакамі, бацька якіх неаднаразова асуджаны, адзін з мясцовых «аўтарытэтаў». Сыны таксама пайшлі па крымінальнай сцяжынцы, пацягнуўшы за сабой дзяўчын, у якіх былі закаханы. Пасля шматлікіх перэпетый гераіні вырываюцца з абдымкаў бандытаў, а адзін з братоў вяртаецца на сумленны шлях пасля загадкавага знікнення свайго брата.***

***Такі маральны вывад як перасцярога тым, хто сёння стаіць перад выбарам дабра і зла, – у традыцыях класічнай літаратуры, што асабліва радуе. Прыхільніцы паэзіі Сяргея Ясеніна (Наташа) і драматургіі Уільяма Шэкспіра (Каця) у творчасці ўвасобілі свае жыццёвыя погляды.***

***Першы празаічны твор школьніц называецца «Дзве сяброўкі – адзін лёс». Складана цяпер сказаць, ці прароцкай будзе гэта назва. Пакуль жа можна проста парадавацца, што дзвюх дзяўчынак аб'яднālі намаганні ў адной мэце, у сумеснай працы.***

***10-класніцы з нецярпеннем чакалі журналісцкага «вердыкту». Аповесць ацэнена, выказаны заўвагі і прапановы. Зразумела, дастаткова вялікі аб'ём не падыходзіць для фармату газеты, але, з улікам рэдактарскай праўкі, аповесць можна выдаць, на мой погляд, асобна – як прыклад творчасці вучняў.***

***На суд чытачоў выносіцца спецыяльна напісаная дзяўчынкамі легенда пра ўтварэнне Мікашэвіч – старажытнага паселішча, якое нядаўна атрымала статус горада.***

*Таццяна КАНАПАЦКАЯ,*
*г. Лунінец*

# Спадчына пераможнага Мікаша

## Легенда

Тапанімічны слоўнік тлумачыць паходжанне назвы нашага горада ад уласнага імя Мікаш, што азначае Мікіта, а з грэчаскай мовы гэта імя перакладаецца як «пераможца».

Беларусь славутая прыроднымі багаццямі, ахоўваць якія старажытныя ўладальнікі земляў спрадвеку даручалі леснікам. Звычайна лютавалі княскія слугі больш за гаспадароў, выклікаючы нянавісць у сялян. Адзін толькі меў добрую славу – ляснік Мікаш. Быў справядлівы, памяркоўны. Паважалі яго бедныя людзі, але за сваю дабрыню ён і паплаціўся. Суровай зімой дазволіў шматдзетнаму небараку высекчы бясплатна некалькі сухіх дрэў на паліва. Данеслі аб гэтым учынку князю, які жорстка пакараў лесніка – выслаў, у чым той стаяў, у непраходныя пушчы Палесся.

Але працавітыя людзі нідзе не прападуць. Мікаш паступова нарыхтоўваў драўніну і шкадаваў, што няма дзе набыць інструменты, каб пабудаваць жытло. На многія вёрсты навокал не было ніводнага чалавека. Таму ён вельмі разгубіўся, калі аднойчы вечарам убачыў сярод балот і лясоў прыгожую дзяўчыну, якая ішла і горка плакала. Слёзы каціліся па яе белых ланітах, нібы раса па траве. Затрапятала сэрца Мікаша:

– Што здарылася, прыгажуня? Як ты тут апынулася? Чым магу дапамагчы табе?

У адказ малады чалавек пачуў:

– Заўтра – Купалле. Я павінна знайсці кветку папараці. Колькі гадзін блукаю, але нічога такога не бачыла.

– Навошта табе папараць-кветка, прыгажуня? Няўжо шчасце толькі ад яе залежыць? Няўжо ты не верыш у моц чалавечых рук і святло чалавечага розуму?

Дзяўчына пахітала галавой:

– Гэта не мая тайна, таму не магу табе яе выдаць. Але ад маіх пошукаў залежыць лёс многіх людзей. Знайду папараць-кветку – не толькі сама буду шчаслівай. Хочаш дапамагчы – пайшлі разам. Летняя ночка кароткая, няма часу на размовы...

Раптам прамень месяца асвяціў твар нечаканай госці, і Мікаш убачыў у гэтым знак лёсу. Не раздумваючы, ён працягнуў руку дзяўчыне, і яны разам пайшлі ў цемру лесу.

Гадзіна ляцела за гадзінай, а пошукі не давалі плёну. Стомленыя, знясіленыя спадарожнікі не дазвалялі сабе нават хвіліннага прыпынку. І калі ўжо хлопец і дзяўчына былі блізка да адчаю, перад самым світанкам, прырода раскрыла перад імі сваю таямніцу. Сярод балотнага люстэрка зазіхацела дзіўнае ззянне. Аберагаючы дзяўчыну, па багне Мікаш сам асцярожна дабраўся да запаветнага ўзгорку і сарваў папараць-кветку.

З такой жа асцярожнасцю, вярнуўшыся, працягнуў каштоўную знаходку дзяўчыне. Яму так хацелася сказаць ёй: «Ты выканала тое, што табе было загадана. Бяры кветку і стань маёй нявестай...»

Але Мікаш не паспеў вымавіць гэтыя словы. Дзяўчына ўзняла бялюткую з сярэбраным адлівам кветку над галавой. Імгненна зноў цемра апусцілася на паляну, але ў той жа момант прамень сонца дакрануўся да папараці. Ад нечаканасці Мікаш прыкрыў далонню вочы. Калі ж кінуў позірк на наваколле, замест блізкага гушчару лесу убачыў казачнай прыгажосці паселішча. З дамоў выходзілі людзі і віталі былога лесніка:

– Ты перамог закляцце! Ты вызваліў нас ад прыгнёту! Дзякуй табе!

Нічога не разумеючы, Мікаш паглядзеў на дзяўчыну. З ласкавай усмешкай яна растлумачыла:

– Злы чараўнік не хацеў, каб людзі карысталіся яго падземнымі багаццямі, таму наслаў закляцце на наш народ. Мы павінны былі жыць у цемры, не бачыць белага свету, каб і свет не здагадваўся аб нашым існаванні. І толькі раз у год самай прыгожай дзяўчыне дазвалялася ісці ў лес на пошукі папараць-кветкі. За шмат стагоддзяў нікому не ўдавалася знайсці яе. Магчыма, і мне не пашанцавала б, калі б не твая дапамога. Ты – пераможца. Як узнагароду, прымі ўладаранне нашым паселішчам, якое хутка стане багатым і вядомым.

– Галоўная ўзнагарода – наша з табой сустрэча, – адказаў Мікаш. – Трэба, каб горадам кіравалі тыя, хто можа гэта рабіць. Я ж займуся лясной справай. А іншага шчасця, чым быць з табой, сабе не ўяўляю.

І Мікаш з прыгажуняй стварылі сям'ю ў палескім горадзе, які ўдзячныя жыхары ў гонар свайго вызваліцеля сталі называць Мікашэвічамі. Праз шмат стагоддзяў тут асвяцілі праваслаўны храм у імя Нараджэння Іаана Прадцечы, і любімае народам Купалле стала найлепшым святам паселішча. На гербе горада Мікашэвічы, які спалучыў сімвалы гранітнага радовішча і прыродных краявідаў, асабліва пяшчотна адлюстраваны бела-сярэбраныя пялёсткі. Папараць-кветка асвятляе жыццё людзей, якія працай здабываюць сваё шчасце.



*На ілюстрацыі: касцёл (фота пачатку XX ст.) і перабоблена з яго царква*

*Наталля МІЗЮРЫНА,*
*Кацярына ЯГОШЫНА,*
*г. Мікашэвічы*

**Ад рэдакцыі.** *Заўважана многімі – нашаму беларускаму краю бракуе легенд, легенд прыгожых, гераічных, любоўных, фантастычных. Легенда звычайна захоўвалася ў вуснай народнай творчасці і перадавалася з пакалення ў пакаленне, знікала... і зноў нараджалася на глебе новай гістарычнай сітуацыі, на новым этапе развіцця грамадства.*

*Многа легенд зямлі беларускай знікла толькі таму, што нас прымусілі амаль забыць сваю мову. Легенда можа існаваць толькі ў тым асяроддзі, на тым падмурку, на якім адбудавалі яе продкі.*

*«КГ» друкавала і будзе друкаваць легенды-наватворы, бо яны нараджаюцца там, дзе адраджаецца мова.*



# 2007: Год Слова Купалы і Коласа

## З радаводу

(Працяг. Пачатак у № 3)

Па першай публікацыі гэтай рубрыкі, што датычыць радаводу Я. Купалы і Я. Коласа, чытач не мог не заўважыць, што наша выданне пазбягае даваць нейкія агульнавядомыя звесткі пра класікаў, адсылае і будзе натхняць да архіўных і іншых дакументальных крыніц. Каб уведаць штосьці новае, глыбей зразумець іх (Я. Купалы і Я. Коласа) і іхнюю featureізнабаковую дзейнасць.

Што да Я. Купалы, можа, яго дзейнасць вывучана менш, чым Коласава: ён жыў меней, ды і Купалаў мінскі дом з бібліятэкай і хатнімі архівамі згарэў падчас пачатку Другой сусветнай вайны. Але і пра яго, Я. Купалу, нямала розных успамінаў, у тым ліку і архіўна-дакументальных даследаванняў. У гэтай сувязі нельга не назваць «Пуцявінамі Янкі Купалы. Дакументы і матэрыялы» выдатнага літаратуразнаўцы Г. Кісялёва, якія пабачылі свет у выдавецтве «Навука і тэхніка» у 1981 г. Канечне, гэтае даследаванне даўно ўжо стала рэдкасцю, але калі вы жадаеце больш чым за 300 старонак вельмі згушчанага тэксту штосьці і цяпер новае ўведаць пра Я. Купалу, то шукайце гэтае выданне ў бібліятэках. Не пазамінае зазірнуць і ў Збор твораў песняра, дзе змешчаны даволі падрабязны агляд ягонага «Летапісу жыцця і творчасці». Мы ж, улічваючы газетныя магчымасці, пастараемся абмежавацца, на нашу думку, самым асноватворчым – зразумела, і з сённяшняга пункту гледжання (яно толькі падвысіць нашу агульную думку пра Я. Купалу).

## Маленства

1887 г. Яго бацькі мусяць пераязджаць у маёнтак Косіна Барысаўскага павета Мінскай губерні. Там юнаму Янку дае першыя ўрокі вандроўны настаўнік, які, можа, і хацеў падзарабіць. «Учил, кажется, ученик гимназии, – успомніць Я. Купала ў 1927 г. у лісце да рускага даследчыка беларускай літаратуры Л. Клейнбарта. – Первое учение (от азбуки) было на польском языке». Гэты ўспамін ва ўмовах СССР і БССР Я. Купала будзе пісаць вельмі асцярожна, ужо цудоўна спазнаўшы, што і яму, знанаму беларускаму паэту, трэба падкрэсліваць не столькі свае «жыццёвыя універсітэты», колькі больш чым «дабрадзейны» уплыў «пралетарскага пісьменніка» М. Горкага і бальшавіцкай улады.

1889 г. На пачатку года сям'я Луцэвічаў пераязджае ў маёнтак Сенніца Мінскага павета на зямлю, якую яна бярэ ў арэнду. Я. Купала ў вышэйзгаданым лісце да рускага даследчыка: «Когда отец жил в Сеннице, я учился одну зиму в Сенницком народном училище. До этого я от нянек научился русских букв». Вядомая настаўніца таго вучылішча – А. Сонцава. Гэты факт, па-сённяшняму, цікавы тым, што яшчэ юны (сем гадоў) Я. Купала, можа, з аднаго боку, што зусім зразумела, быў разгублены, хто ён і якога роду, а з другога – далучаецца, пачынае пакрыху ўсведамляць, што ён з «не бязродных», не пыл на ветры, але цяпер, у Расійскай імперыі, мусіць своеасабліва ўсведамляць былую ролю былой беларускай шляхты, якую не дапусцілі да расійскага дваранства, і сваё чалавеча-грамадзянскае прызначэнне... Пра што і як ён, з былога беларускага роду шляхты, павінен дбаць на новым этапе айчыннай гісторыі...



Ясь Луцэвіч у шасцігадовым узросце

*Наша спадчына*

## Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні

Колькі было ўсіх выдавецтваў, друкарняў з таго часу, як яны пачалі несці святло слова, ведаў нашаму народу, няпроста і сказаць. Сягоння гэта надзённы даследчыцкі клопат гісторыкаў нашай культуры. Як і шмат чаго іншага, ён чакаў свайго часу. Ды пра найбольш заслужаныя ў духоўным жыцці народа выдавецкія таварыствы, суполкі людзей, якія вызначыліся ў гэтай высакароднай працы, штось ведаем. Напрыклад, пра пачынальніка беларускага кнігадрукавання, падзвіжніка асветы эпохі Адраджэння, гуманіста, пісьменніка, мысліцеля Францыска Скарыну. Распачаўшы сваю друкарска-выдавецкую працу ў Празе, ён хутка перабраўся з ёй на бацькаўшчыну, заснаваўшы друкарню «ў сталечным месце Віленскім».





І, пэўна ж, не выпадковым было тое здарэнне, што без мала праз 300 гадоў якраз тут, у гэтым старажытным горадзе, купка людзей, згуртаваная высокай ідэяй паслужыць краю, услед за газетамі «Наша доля» і «Наша ніва» заснавала «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні». Сталася гэта 13 ліпеня 1913 года. Сярод заснавальнікаў былі археограф, грамадскі дзеяч Іван Луцкевіч, культурна-асветны працаўнік Барыс Даніловіч, публіцыст Язэп Манькоўскі, больш вядомы пад псеўданімам Янка Окліч. Было яшчэ некалькі энтузіястаў. Новапаўсталае выдавецтва абапіралася на выдавецтва «Нашай нівы» і ставіла задачу друкаваць і распаўсюджваць беларускую літаратуру. У першыя ж гады сваёй працы Таварыства выпусціла ў свет «Родныя з'явы» Якуба Коласа, «Рунь» Максіма Гарэцкага, «Васількі» Ядвігіна Ш., кнігі, што засведчылі, як хораша ўзыходзіць новае беларускае мастацкае слова, маладая проза.

Да таго, як Вільню занялі кайзераўскія войскі, БВТ паспела яшчэ выдаць кнігу паэзіі К. Буйлы «Курганная кветка», зборнік публіцыстыкі і прыгожага пісьменства «Велікодная пісанка», аздоблены гравюраю Скарынавых выданняў, беларускія кнігі – календары на 1914 і 1915 гг. Няшмат, усяго каля 10 кніжак тыражом 50 тыс. экземпляраў. Але сярод іх былі кнігі, творы, што надзейна леглі ў мур «гмаху беларускай культуры» (М. Багдановіч). У 1919 годзе, як крыху прыціхлі гарматы, «Беларускае выдавецкае таварыства» адрадзілася. За гады рэвалюцыі ўзрасла грамадская актыўнасць беларускага народа. Да працы на духоўнай ніве яго прыйшло шмат новых людзей. Рупіліся на розных дзялянках адразу. Трэба было і было што выдаваць з твораў мастацкай літаратуры, па пытаннях кааперацыі, педагогікі. Для культурных асяродкаў, гурткоў самадзейнасці, хораў трэба было даць зборнічкі п'ес, песень. І таварыства выдае перш-наперш арыгінальныя беларускія падручнікі Л. Чарняўскай, Б. Тарашкевіча, А. Смоліча, А. Неканды-Трэпкі, «Беларуска-рускі слоўнік» М. Гарэцкага. Яны сталіся добрай падпорай для толькі што адроджанай пасля забароны беларускай школы, асветы на роднай мове. Па меры нарастання вызваленчага руху духоўнае жыццё народа ўсё больш інтэнсіфікавалася. У гэтым працэсе Таварыства займае сваё прыкметнае месца. У кіраўніцтва яго выбіраюцца агульнапрызнаныя прадстаўнікі культурнай грамадскасці Заходняй Беларусі. У дзейнасці БВТ выяўляецца шырокі падыход да праблем выдання. Усё паўней ахопліваюцца розныя сферы жыцця. Сярод рознапрофільнай літаратуры, якую выпускае БВТ, першае месца ўсё ж займаюць творы мастацкія. Таварыства выдае ладны том «Выбраных твораў Якуба Коласа», забяспечыўшы яго кампетэнтнай прадмовай пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка, чыё слова ў заходнебеларускіх умовах побач са словам Купалы набывала вялікі грамадскі рэзананс. Выдаюцца паэтычныя кніжкі У. Жылкі і К. Сваяка, сцэнічныя творы К. Каганца, У. Галубка, М. Гарэцкага, гумарыстыка А. Паўловіча. Першы выпуск «Беларускага спеўніка з нотамі», акрамя народных песень, уключаў і творы, народжаныя вызваленчай барацьбой. Узрастаў мастацкі ўзровень надрукаваных кніг, павялічваўся іх тыраж. Асабліва добра была выдадзена «Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры» Ігната Дварчаніна (1927). Тут былі сабраны лепшыя здабыткі беларускага прыгожага пісьменства. «Хрэстаматыя» адыграла сур'ёзную ролю ў патрыятычным, сацыяльным і эстэтычным мужанні заходнебеларускай моладзі. Аб гэтым расказваюць дзеячы камуністычнага падполля Заходняй Беларусі, былыя грамадаўцы. БВТ па-ранейшаму працягвае выдаваць «Беларускія календары» – гэтыя своеасаблівыя помнікі свайго часу: так жыва яны расказваюць пра ідэйную, духоўную скіраванасць жыцця 1920-х гадоў, яго праблемы, сведчаць пра руплівасць над развіццём народнага генія. БВТ клапоціцца і пра перанясенне на беларускую глебу культурных здабыткаў іншых народаў. Стараннем і коштам Таварыства выдаецца цэлая бібліятэка перакладной літаратуры, у першую чаргу творы рускай і польскай класікі.

Жытнія каласы і васількі, заключаныя ў рамку-васьміграннік, – эмблема «Беларускага выдавецкага таварыства» – сімвал карысці і красы, ідэйна-эстэтычнае крэда незабыўнага Максіма Багдановіча. Значыць, і яго светлы цень вітаў над клопатам і руплівасцю выдаўцоў, рэдактараў і наборшчыкаў кніг, выдадзеных БВТ. «Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні» спыніла сваю грамадска-асветную дзейнасць у 1930 годзе. Гэта быў час цяжкіх выпрабаванняў для вызваленчага руху Заходняй Беларусі, для беларускага народа.

Разгром ударам Пілсудскага-Мейштовіча рэвалюцыйна-дэмакратычных партый і арганізацый, рэпрэсіі супраць удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага, рэвалюцыйнага руху і звязаны з гэтым падзел, драбленне сіл яго на паасобныя групоўкі прывялі да звужэння духоўнага жыцця, прыкметнага заняпаду выдавецкай дзейнасці ў Заходняй Беларусі. Кааператыўныя асновы ў ёй аслаблі, у складаных грамадска-палітычных умовах яна шукала новых форм. Аднак не заўсёды яны былі больш эфектыўныя.

*Арсен ЛІС*

## Юнацтва

(Працяг. Пачатак у № 3)

1898–1902 гг. Я. Колас паступае ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, дабіваючыся, што першы з вялікай сям'і Міцкевічаў пачне атрымліваць сістэмную адукацыю.

Я. Колас у 1898-м, вытрымаўшы экзамены (найперш на даволі дасканалае веданне рускай мовы), паступае ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Як і ў звестках пра Я. Купалу, зноў жа адрасуем чытача да іншай кнігі выдатнага даследчыка беларускай даўніны Г. Кісялёва («З жыццяпісу Якуба Коласа». Мн.: «Навука і тэхніка», 1982), да шматлікіх успамінаў самых розных людзей пра гэтага класіка. Выбачайце, трэба выкарыстаць не адзін нумар нашага выдання, каб хоць даць пералік захопленых водгукаў тых, хто ведаў слыннага сына нашай зямлі ці і, не ведаўшы, хацеў і хоча сказаць пра яго добрае слова. Але ўсё ж трэба асобна нагадаць, што пасля смерці старэйшага сына Я. Коласа, Данілы, у 2000 г. у выдавецтве «Полымя» выйшла яго кніга «Любіць і помніць. Успамінае сын Якуба Коласа», дзе ёсць шэраг тых старонак, фактаў, што па самых розных прычынах былі недаступныя шырокай грамадскасці. Адпаведна, вельмі важна ведаць, што своеасаблівыя новыя звесткі падае самы найшчырэйшы даследчык жыцця і творчасці Песняра – яго старэйшы сын, Даніла Канстанцінавіч. Ён перад смерцю вырашыў прыадкрыць некаторыя тайны свайго славутага бацькі, якому ад гэтых тайнаў часамі было маркотна і горка.

У вышэйназванай даследчай кнізе Г. Кісялёва змешчана нямала друкарскіх старонак, дзе паведамляецца, як Костусь Міцкевіч у 15-гадовым узросце пачаў вучыцца ў Нясвіжскай семінарыі, якія вывучаў прадметы (закон божы, галоўныя асновы педагогікі, арыфметыку, рускую геаграфію і гісторыю, чыстапісанне, спевы і інш.), па якіх прадметах якія меў адзнакі. Вядома імя яго класнага кіраўніка – настаўнік матэматыкі і фізікі Л. Лычкоўскі. Напрыклад, за 1900/1901 навучальны год Костусь меў самыя лепшыя адзнакі па гуманітарных прадметах. Даўно ўжо засведчана, што адным з тых, хто зрабіў з 1900 г. самы плённы ўплыў на будучага Я. Коласа, быў выкладчык рускай мовы, які быў прысланы з цэнтральных расійскіх губерняў, а родам з Украіны, Фядот Кудрынскі (1867–1933). Ён з'яўляўся беларускім і ўкраінскім этнографам, літаратарам, заахвочваў сваіх вучняў вывучаць рускую літаратуру, збіраць, запісваць свой, тутэйшы, фальклор, пісаць уласныя творы. Костусь Міцкевіч, як пазначана ў архіўных дакументах, у прыватнасці, 13 сакавіка 1902 г. на семінарскай вечарыне прачытаў свой верш на рускай мове, прысвечаны М. Гогалю. Твор спадабаўся выкладчыкам семінарыі, і юны паэт атрымаў падарунак – кнігі М. Гогаля.

У даследаванні Г. Кісялёва змешчаны вельмі цікавы дакумент: дырэктар вучылішча, строгі норавам і зусім далёкі да беларускасці, дае характарыстыку выпускнікам семінарыі за 1902 г., а таксама тым мясцінам, куды яны накіроўваюцца настаўнічаць. Даючы характарыстыку Канстанціну Міцкевічу, кіраўнік вучэльні зазначыць, што той край, куды накіроўваецца працаваць іхні выпускнік, няпросты. Нават і з-за таго, што тамтэйшыя сяляне не вельмі ахвотныя навучаць грамаце сваіх дзяцей.



*Так маглі выглядаць у маладосці бацькі Я. Коласа Ганна Юр'еўна і Міхаіл Казіміравіч. Малюнкі ў 1981 г. на аснове ўспамінаў родзічаў выканаў мастак Ю. Жызнеўскі-Герасіменка. Ілюстрацыі прадастаўлены Літаратурна-мемарыяльным музеем Я. Коласа ў Мінску*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

# Што ў назве тваёй, Прыпяць?

*Палессе... У каго пры гэтым слове не ўзнікаюць асацыяцыі з бязмежнымі водамі і туманамі, камарамі, пясчанымі выспамі, мохам на камлях старых ялін. Шырокая Прыпяць цячэ між зялёных берагоў на ўсход, да Дняпра, а з усіх бакоў да яе накіроўваюцца бясконцыя вялікія і малыя прытокі. Веснавой паводкай, калі берагі ракі абазначаны паласой дрэў і хмызняку, што тырчаць з вады, Прыпяць нагадвае мора, і толькі дзесьці ўдалечыні, на пясчаных узвышшах, ледзь прыкметна сінее лес.*

*Як сведчаць рускія географы XIX стагоддзя, балоты ў даліне Прыпяці займалі чвэрць усёй тэрыторыі. Большасць з іх была зусім непраходнай, хіба што ў час засухі ці моцных маразоў. Але і ў сухі перыяд года берагі Прыпяці, напрыклад, на ўсход ад Пінска да вусця Лані, у многіх месцах ледзь узнімаліся над вадой, утвараючы вузкую палоску, за якой пачыналіся суцэльныя балоты. У былым Мазырскім павеце толькі левы бераг ракі, а таксама наваколле Турава і Мазыра было больш узвышаным і зручным для пражывання.*

Цікава, што агромністыя балотныя масівы Палесся і дагэтуль захавалі свае гістарычныя назвы. Гэтыя старадаўнія геаграфічныя назвы, якія змешчаны ў старых пісцовых кнігах, актах, імянных і геаграфічных паказальніках да гэтых дакументаў, у апісаннях прыроднага ландшафту, у даследаваннях па геаграфіі краю, уяўляюць вялікую навуковую каштоўнасць.

Асаблівыя назвы ў мясцовых жыхароў атрымлівалі, перш за ўсё, тэрыторыі, прыгодныя для засялення і апрацоўкі зямлі, а таксама тыя, якія былі зусім недаступнымі, занятымі непраходнымі багнамі. Сухі і больш узвышаны раён знаходзіўся паміж рэкамі Ясельдай і Пінай, каля горада Пінска. Уся тэрыторыя на захад ад горада яшчэ параўнальна нядаўна называлася *Загароддзем*, а жыхароў Піншчыны называлі *загародцамі*. Супрацьлеглая Загароддзю прастора, якая прымыкала да Пінска з паўднёвага ўсходу, паміж паўднёвым берагам Піны, часткай Ясельды і Прыпяці, ракі Стыр, называлася *Зарэччам*, а мясцовыя жыхары – *зарачанамі*. Лясы і балоты, што раскінуліся з другога боку па берагах рэк Цна, Лань, Морач і Случ, у канцы мінулага стагоддзя мелі назвы *Стрыж, Адрына, Жарнова, Гайдзін, Гвозса, Одр.* Самае вялікае балота ўздоўж ракі Морач называлася *Люцень.*

На тэрыторыі сучасных Жыткавіцкага, Салігорскага і Слуцкага раёнаў знаходзілася вялізнае адкрытае і непраходнае балота *Грычын*, якое рускія географы XIX стагоддзя лічылі рэшткамі палескага возера. Каб зразумець, што гэта за «палескае возера», трэба зноў звярнуцца да даследаванняў па гістарычнай геаграфіі, згодна з якімі даліна Прыпяці ў далёкім мінулым была дном возера. У яго ўпадалі шматлікія рэкі, якія адкладвалі ў дэльтах розны наносны матэрыял і такім чынам як бы адбіралі ў возера тэрыторыю. Так працягвалася да таго часу, пакуль паўночныя і паўднёвыя прытокі не сустрэліся ў цэнтральнай частцы возера і не ўтварылі адну агульную раку, якая панесла свае воды ў даліну Дняпра.

Рэдкае насельніцтва, якое жыло побач з балотам *Грычын* і навакольных тэрыторыях, звалася *замшукамі*. Мясцовасць па цячэнні Сцвігі ў XIX стагоддзі была пакрыта амаль суцэльнымі балотамі, якія называліся *Волхавымі*.

Дзяленне геаграфічнай прасторы на прыгодныя для апрацоўкі і пражывання зямлі і непрыгодныя ўскосна ўздзейнічала на сістэму назваў шматлікіх рэк, ручаёў басейна Прыпяці. Суседнія рэкі, а нярэдка левыя ці правыя прытокі ракі мелі аднолькавую назву. Такая з'ява называецца «люстраной» тапаніміяй.

Асабліва часта паўтараюцца такія назвы, як *Турыя (Тур'я, Турэйка)* – каля дваццаці разоў, *Жалонь (Жаціонка, Жалонька, Зольня)* – каля дзесяці разоў, а таксама *Бобрык, Вет (Віць), Маства, Сцвіга* (з ранейшай формы *Мсцвіга)* і іншыя.

Існаванне аднолькавых назваў рэк, акрамя іншых прычын, тлумачыцца яшчэ і вопытам рэгулярнага выкарыстання іх як шляхоў зносін, што пацвярджаецца падобнымі з'явамі ў іншых рэгіёнах. Густая рачная сетка Палесся давала магчымасць з даўніх часоў выкарыстоўваць рэкі як магістральныя водныя шляхі, а таксама для мясцовых зносін. Галоўнай транспартнай магістраллю з'яўлялася Прыпяць, якая то разгаліноўвалася на шматлікія рукавы, то зноў злучалася, прымаючы ў сябе 123 ракі і рэчкі. У мінулым яна мела некалькі назваў. У верхнім цячэнні ў розных месцах яе называлі па-рознаму – *Пірок, Стаход* і *Струмень*. Імя *Прыпяць* рака атрымлівала ў прамежку ад месца злучэння яе з Ясельдай і Стырай.

Вядомыя нам назвы пэўных рэк узнікалі заўсёды ў якім-небудзь адным месцы і потым паступова распаўсюджваліся на ўсю раку.

Сістэма рэканструяваных старажытных водных шляхоў Беларусі паказвае, што асноўны транспартны кірунак у Палессі праходзіў па ніжнім цячэнні Прыпяці аж да ўпадзення ў яе ракі Пціч, далей уверх па цячэнні Пцічы, дзе існаваў волак, які злучаў вярхоўі Пцічы і Нёмана. Далейшы свой працяг гэты магістральны кірунак атрымліваў па цячэнні Нёмана з выхадам у прывісленскія землі. Сярэдняя частка цячэння Прыпяці, ад упадзення Пцічы да ўпадзення Ясельды, і мела найменне ўласна *Прыпяць* (ці *«Припеть»* – старая форма). Гэтая частка ракі ўяўляла сабой водны шлях мясцовага значэння. У верхнім цячэнні, асабліва да ўпадзення ракі Піны, Прыпяць не была суднаходнай, тут яна месцамі забалочана і распадаецца на некалькі рукавоў, таму і насіла ў мінулым назву *Стаход* (літаральна – «рака са шматлікімі адгалінаваннямі»; аднайменны прыток Прыпяці дагэтуль існуе ў яе верхнім цячэнні). Яшчэ адна назва верхняй Прыпяці – *Струмень*. Падобнае найменне маюць невялікія лясныя рэчкі і ручаі, якія працякаюць у забалочанай мясцовасці. Трэцяя ранейшая назва верхняга цячэння Прыпяці – *Пірок* – у сучасны момант не мае «празрыстага» значэння. Тым не менш яна адпавядае, як можна меркаваць, найменню Перга (правы прыток Убарці ў басейне Прыпяці), якое мае варыянтныя формы Вялікая Бабровая Банька і Перагон. Сапраўды, у вярхоўях Прыпяці і па яе прытоках ёсць значныя калоніі баброў, а «бабровыя» рэчкі з'яўляліся зручным сродкам перагону, перацягвання лодак і невялікіх суднаў, выконвалі ў мінулым ролю волакавых шляхоў. Цікава, што ў канцы XIX стагоддзя Прыпяць у верхнім цячэнні да месца ўпадзення ў яе ракі Піны выкарыстоўвалася як сплаўная. Што ж датычыць назвы Пірок, як і Перга, то яны ўзыходзяць да старажытнай асновы *перт*, якая выкарыстоўвалася на тэрыторыі Усходняй Еўропы для наймення рэчак, на якіх знаходзіліся пасяленні баброў. Не выпадкова слова перт (у сучасны момант яно вядома толькі ў фінскіх мовах) мела значэнне «дом, хата, лазня».



Месца ўпадзення Ясельды ў Прыпяць

Дарэчы, варыянтная назва ракі Перга – *Вялікая Бабровая Банька* – якраз і з'яўляецца дакладным перакладам асноўнага наймення.

У старажытнасці галоўнай ракой лічыўся той участак воднага шляху, па якім ажыццяўляўся перавоз грузаў. У нашай схеме – гэта *Пціч* з выхадам у ніжняе цячэнне Прыпяці. Што ўяўляе сабой з лінгвістычнага пункту гледжання назва *Пціч* (у старых напісаннях — *«Пътичь», «Бъчичь»*)? Кожная назва ляжыць на перакрыжаванні радоў, якія ўтвараюцца назвамі з аднолькавай асновай і назвамі з аднолькавым суфіксам – фармантам. У прыпяцкім басейне і шырэй – у Верхнім Падняпроўі сустракаюцца рачныя імёны тыпу *Добрыч, Несвіч, Ведрыч*, якія дазваляюць вылучыць у назве *Пціч* аднолькавы суфікс -іч (ичь). З другога боку, тая частка назвы, што засталася (пц-, път-, у мінулым таксама «бъч»-і, магчыма, «пят-», «пет-», «пат-»), суадносіцца з другой часткай назвы *Прыпяць* (гістарычна *Припеть*). Калі зыходзіць з таго факта, што ўласна Прыпяццю рака называлася ад месца ўпадзення Ясельды, то ў такім выпадку ўчастак ракі ад Ясельды да ўпадзення Пцічы можна разумець як *Прыпяць (При-петь)*, г.зн. літаральна «тая, што знаходзіцца побач з ракой *Пет (Пець, Пяць)*, упадае ў гэту раку». Для параўнання: *Прыжалонак* – прыток *Жалоні; Прышчанка* – прыток *Шанкі* (басейн Прыпяці). Падобны структурны тып рачных імён ёсць і ў іншых раёнах Верхняга Падняпроўя.

Трэба заўважаць, што большасць са шматлікіх тлумачэнняў назвы Прыпяць зыходзіць з члянення імені на *Пры-пяць (При-петь)*.

Дадзеныя гістарычнай геаграфіі і гістарычнай тапаніміі Палесся пацвярджаюць такое лінгвістычнае тлумачэнне рачной назвы, незалежна ад значэння і моўнай прыналежнасці асновы – *пяць (-петь, -пет, -пят)*.



Захад сонца на Прыпяці

*Зрэшты, матэрыял, які ёсць у нашым распараджэнні, дазваляе зрабіць некаторыя меркаванні наконт першапачатковага значэння асновы. Нагадаем рачныя імёны, роднасныя, на наш погляд, разглядаемай назве: Педань (басейн Дзясны), Пядынка (басейн Бярэзіны Дняпроўскай), Убедзь, Убець (басейн Дзясны), Педня (басейн Масквы-ракі), Пятуш, Пячка, Пет, Петас, Піціна, Пятай (басейн Акі), Пят, Гнілапяць (басейн Росі, Сярэдняе Паднятроўе), Гнілыя Пяты, Паты (басейн Паўднёвага Буга) і іншыя. Усе гэтыя назвы вельмі верагодна лічыць утворанымі ад старажытнага слова пет (* pet) са значэннем «пашырэнне, расцяканне, распаўсюджванне». Гэтае слова было ўласціва яшчэ старажытным індаеўрапейскім гаворкам. Праўда, некаторыя тапаністы (у прыватнасці, Я.М. Паспелаў) лічаць, што гідранімічная аснова пет- распаўсюджана і на Рускай Поўначы і сустракаецца ў складзе так званых субстратных (гэта значыць найбольш старажытных) тапонімаў, моўную прыналежнасць і значэнне якіх высветліць пакуль немагчыма.*

***Паводле кнігі Аляксандра РОГАЛЕВА «Сцежкі ў даўніну»***

***Фота Ігара ГРЭЧКІ***

# Цэнтр дзяржавы
## у стылі постмадэрнізму

***Як ні спяшаліся, але ў Валяр'янава – катэджны пасёлак за кіламетр ад Мінска – дабраліся тады, калі прыцемкі пачалі свой баль. Ліхтароў мала, злым гаспадаром завываў вецер.***

– Ужо хутка будзем праходзіць ля цікавага дома, – сказалі мне сябры.

Цікавы то цікавы, толькі ж цемра заглынула ўсё – нічога не відаць.

На дапамогу прыйшоў мабільнік, які даў якое не якое, але святло. Праўда, весялей ад гэтага не стала. На нас глядзела белае страшыдла з чорнымі вялікімі вачыма.

– Гэта чэрап, – махнуў рукой сябар. – Вось, чытай:

*«Цэнтр дзяржавы Валяр'янава*

*– самы вялікі прыватны вадаспад Мінскай вобласці*

*– музей печак*

*– першы ў свеце помнік маланцы*

*– адзіны ў свеце музей муляжнай тэхнікі*

*– самы вялікі вінаграднік у Валяр'янава*

*– месца здымак беларускага серыяла*

*– музей сялянскай тэхнікі»*

Вы не ўяўляеце, як цяжка было стрымацца і не набраць нумар, які быў унізе, каб папрасіць правесці экскурсію.

...Раніцай нас сустрэла дзяўчына Ганна, дачка гаспадара дома, вучаніца 11-га класа, якая распавядае ахвочым пра ўсе цуды іх дома.

– Пачнем з вуліцы, – сказала яна. – Над уваходам вы бачыце ветраны млын...

– А ці не замінае ён вам хадзіць, калі моцны вецер? – адразу ж пацікавіліся мы.

– Не, прыпыніў рукой – і няма праблемы. Яшчэ ніхто без галавы не заставаўся. Як вы маглі заўважыць, у нас на ўсёй тэрыторыі вялікая колькасць колаў. Яны сімвалізуюць цыклы: жыццё – смерць, усход – захад, дзень – ноч і г.д. А таксама многа вежаў з чарапамі, якія адганяюць злых пачвар...

– Мы не злыя, калі прыйшлі сёння, – жартаўліва зазначыў сябар.

Пайшлі ўздоўж плота, уважліва слухаючы кожнае слова расповеду. Такога я ніколі ў жыцці не бачыла. На першы погляд сцяна каменная, але калі прыглядзецца, то можна заўважыць у ёй розныя рэчы: колы, ланцугі, пячныя засланкі, матацыклы, цягнікі... Усяго і не пералічыць.

– А вось гэта цэлая калекцыя швачных машын. Любога фасону, памеру і колеру, – паказала экскурсавод на вежу, у якую ўбудаваны сапраўдныя швачныя машыны. – А тут закапаны танк, – працягвала яна. – Калі прыйдзе час, зямля расступіцца – і танк выедзе. Як гэта будзе выглядаць, можна ўбачыць на браме. Тут усё намалявана. «Страшнае, канечне, відовішча», – падумала я.

– Звярніце, калі ласка, увагу на дзве зялёныя вышкі – гэта пад'ёмныя механізмы 9-павярховага дома. А гарматы – гэта так, на ўсялякі выпадак, але яны заўсёды гатовыя выбухнуць. Шыбеніцы спецыяльна для тых, хто нам не падабаецца.

– І нам тут вісець?

– Пабачым, – засмяялася дзяўчына.

Неўзабаве мы апынуліся па другі бок весніцаў. Як тут прыгожа! Позірк проста немагчыма было сканцэнтраваць на чымсьці адным. У розныя бакі ад нас разбегліся сцяжынкі, сарамліва хаваючыся за кусты і дрэвы, якіх, дарэчы, тут вельмі багата. Ідзі па любой. За гаспадыняй мы залезлі на адно збудаванне, з якога добра праглядаўся ўвесь падворак.

– Дах у нас, – распавядала Ганна, – гэта помнік маланцы. Ён уяўляе сабой шэсць дыназаўраў, звязаных паміж сабою стальнымі тросамі, якія глядзяць ва ўсе бакі свету. Справа ў тым, што наш дом стаіць на самым высокім месцы ў Валер'янаве (125 метраў над узроўнем мора) і аднойчы ў яго трапіла маланка. Таму гэты помнік служыць яшчэ своеасаблівым громаадводам.

Мне вельмі спадабалася піраміда. Яна пабудавана дакладна па баках свету. Сцены часткова зроблены з закаркаваных бутэлек, таму цёпла тут нават узімку. Станоўчая энергія, як вядома, збіраецца ўсярэдзіне піраміды. Каб атрымаць асалоду ад яе, трэба ўсяго толькі папрасіць іншага чалавека прывесці ў рух своеасаблівы механізм.

Калі б быў час, тут можна хадзіць гадзінамі. Узлезці на танк, паспрабаваць сябе ў ролі званара, пагрэцца каля печкі або пасмажыць шашлыкі. Можна нават пакупацца. І тут ёсць выбар – басейн ці сажалка. Яшчэ вельмі запамінальны пяціметровы вадаспад. Прычым, гэта ў той жа час і лазня, а ў будучым – і басейн. Карацей, тут столькі ўсяго і столькі цікавага. Дзіву даешся, як са звычайнай рэчы са сметніцы можна зрабіць сапраўдны цуд. А трэба для гэтага ўсяго толькі падключыць фантазію.

– А хто гэта ўсё прыдумвае і робіць? – пацікавілася.

– Мой тата, а рабіць дапамагаюць сябры.

– А адкуль бяруцца рэчы?

– У экспедыцыях. Тата з сябрамі едзе ў гістарычнае месца і за пэўны кошт набывае тое, што патрэбна.

– А ён якую навучальную ўстанову скончыў?

– Радыётэхнічны універсітэт, а цяпер працуе ў сферы дызайну мэблі.

Хутка выйшаў і сам гаспадар – Мікалай Іваноўскі.

– Усё, што вы бачыце, гэта архітэктурны дызайн у стылі постмадэрнізму. Гэта мастацтва, якое не скончана, яно існуе ў працэсе. Пачалі мы будаваць дом у 1997 годзе, а яго дасканаласць можна паляпшаць да бясконцасці. На колькі фантазіі хопіць.

***Выйшлі мы адтуль зачараваныя. Прыглядаліся да ўсіх рэчаў з думкай: «Як і дзе гэта можна выкарыстаць?»***

***Юлія ДАВЫДЗІК,***
***студэнтка БДПУ***
***імя Максіма Танка***



# Духоўны свет мастацтва

***У снежні мінулага года ў мінскім Палацы мастацтваў у межах Каляднага міжнароднага праекта «Карнавал» праходзіла выстава жывапісу, графікі і скульптуры. На той выставе была прадстаўлена і творчасць сябра Саюза мастакоў Беларусі Лявона Грышука.***

Імя мастака не адзін раз згадвалася на старонках беларускага і замежнага друку. Але ж належнай увагі з боку айчынных журналістаў творцу не надаецца. Размова не пра іканапіс. Іканапісцаў пакуль не бракуе. А вось перадаць вобраз Бога праз колер пад сілу не кожнаму. Лявон Грышук – мастак-хрысціянін, а дакладней, пратэстант. І іконы не піша, бо гэта супярэчыць догмам Пратэстанцкай царквы. Ён проста перадае духоўны свет.

Любоў да малявання з'явілася яшчэ ў дзяцінстве. З 7 гадоў Лявон пачаў хадзіць у студыю ў мінскі Палац піянераў, якую вёў Сяргей Каткоў. У студыі ў Сяргея Пятровіча быў стэнд, на якім вывешваліся лепшыя працы за тыдзень. Лепшыя ён адбіраў сам. Кожнаму хацелася, каб менавіта яго малюнак патрапіў на стэнд і павісеў там тыдзень. Так было, што аднаму свайму малюнку Лявон не надаў ніякай увагі, а выкладчык выбраў яго. Гэта была праца акварэллю – стадыён «Дынама». Колькі радасці было хлопчыку.

Пасля была вучоба ў мастацкай школе пры Оперным тэатры. У 16 гадоў Грышук пачаў працаваць. Займаў пасаду дэкаратара ў Рускім драматычным тэатры. Малады чалавек быў мэтанакіраваны. Ім кіравала прага да мастацтва. Таму вырашыў вучыцца далей. У 1970 годзе паступае ў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава на аддзяленне мастацкага афармлення. Па заканчэнні першага курса прыходзіцца спыніць навучанне – служба ў войску. Праз два гады Лявона аднавілі на другім курсе вучылішча, якое скончыў у 1976 годзе. Ад таго часу ён працуе афарміцелем. І раптам адбылася Чарнобыльская трагедыя. 1986 год цалкам змяніў жыццё мастака. Праз пару месяцаў пасля выбуху на ЧАЭС Лявона Грышука разам з такімі ж запаснікамі выклікалі на ваенныя зборы ў Чарнобыль. Прызвалі ў хімічны батальён. У народзе іх называлі «партызанамі». Задача батальёна заключалася ў дэзактывацыі вёсак. Лявону прыходзілася мыць тэхніку, якая працавала на дэзактывацыі. Аднačасова дазіметрам замерваў узровень радыяцыі на машынах, што вярталіся з зоны. Праз два месяцы батальён накіравалі непасрэдна на рэактар. Але спачатку «партызан» прывезлі ў горад Прыпяць. Там была рэпетыцыя на недабудаваным пятым энергаблоку – узыход на дах. Пасля было гадзіны са дзве вольнага часу. Салдаты прайшлі па горадзе, які ўжо быў выселены. Лявона пусты горад вельмі ўразіў. Ён убачыў, што гэта тая зона, пра якую чытаў у кнізе братоў Стругацкіх «Сталкер», і адчуў сябе галоўным героем твора. Выселены горад – нікога няма. «Партызаны» адчынілі адзін пад'езд. Зайшлі ў першую ж кватэру на першым паверсе. Убачылі тапачкі, бацькоўскія і дзіцячыя. Стаяў тэлефон. Паднялі слухаўку – гудкі. На стале асадкі, алоўкі, сшыткі. Усё сведчыла пра тое, што людзі недзе побач. Толькі слой пылу вяртаў да рэальнасці. І салдатам стала страшна. Але страшна не ад рэактару, на які трэба ісці, а ад таго, што няма людзей.

На рэактары працавалі па чатыры чалавекі па дзве хвіліны. Трэба было скідваць расплаўлены графіт. Праз пару дзён салдатаў зноў прывезлі на рэактар. Рабіць даводзілася тое, што і першы раз. А праз два дні, пагледзеўшы на дозу апраменьвання,



*«Які творыць зло»*



*«Пётр і Хрыстос»*

«партызан» адправілі дадому. За працу ў Чарнобылі Грышука ўзнагародзілі медалём «Удзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС» і дзвюма граматамі. Але здароўе ўзнагароды не вярнулі. Да тых збораў мастак амаль што не хварэў. А тут пачалося: спачатку язва, потым праблемы з сэрцам, пасля пухліны з'явіліся. Апошнія былі, дзякаваць Богу, добраякасныя – не рак. Па сем месяцаў на год праводзіў у бальніцах. Перанёс шэсць аперацый. Аднойчы па бальніцы маладыя людзі насілі Біблію. Лявон узяў і пачаў чытаць Святое пісанне, але спачатку нічога не зразумеў. Знайшоў малітву «Ойча наш», стаў чытаць. Ён моцна паверыў, што толькі Госпад яго выратуе. І Бог выратаваў Грышука.

З таго часу ён стаўся мастаком-хрысціянінам.

Шмат у Грышука задум, але часам не ведае, як іх рэалізаваць. Лявон яшчэ піша шмат эцюдаў, на якіх адлюстроўвае прыроду, нашы вёскі. Мастак шмат вандруе па Беларусі. Асабліва любіць невялікія мястэчкі, дзе можна ўбачыць зусім іншае жыццё, адрознае ад гарадскога. Часта ён бывае ў вёсцы Багданаўка, што ў Лунінецкім раёне. Там жыве сябар паэт Мікола Ільючык. Назву паселішча паэт тлумачыць як «Богам дадзенае» – Багданаўка. Гэты куток Палесся ўразіў Лявона сваімі жыхарамі, дакладней іх дабрынёй. Тут ён пабачыў на свае вочы, што людзі не зачыняюць хаты, калі некуды сыходзяць. Дастаткова прыкрыць клямку, каб ніхто не зайшоў. Такога, напэўна, больш нідзе не засталося. Хоць творцу і не хапае кантактаў з прыродай, з'язджаць з Мінска назаўжды на вёску не збіраецца. Не пужае яго і колькасць сталічных мастакоў, сярод якіх лёгка згубіцца. Не баіцца, бо, як мастак, рэалізаваўся. Гледзячы на працы Грышука, заўважаеш рысы, характэрныя толькі ягонаму пэндзлю, яго руцэ.

***Сяргей МАКАРЭВІЧ***

*На фота аўтара:*
*мастак Лявон Грышук*
*і яго карціны*

## Люты

**4 – Фабіян Шантыра** (1887, Слуцк – 1920), беларускі пісьменнік, публіцыст, перакладчык, палітычны і грамадскі дзеяч – 120 гадоў з дня нараджэння.

**8 – Міхась Кенька** (1947), літаратуразнаўца, перакладчык – 60 гадоў з дня нараджэння.

**9 – Крыштоф Радзівіл** (мянушка Пярун; 1547, Вільня – 1603), ваенны і дзяржаўны дзеяч ВКЛ – 460 гадоў з дня нараджэння.

**11 – Напалеон Орда** (1807, Іван. р-н – 1883), кампазітар, піяніст, педагог, мастак, творчасць якога звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Польшчы – 200 гадоў з дня нараджэння.

**14 – Міхась Стральцоў** (1937–1987), пісьменнік, крытык, перакладчык – 70 гадоў з дня нараджэння.

**17 – Віленская рымска-каталіцкая епархія, найстарэйшая на землях Беларусі і Літвы** (1387; з 1991-га ў юрысдыкцыі Літоўскай каталіцкай царквы, мае статус мітраполіі) – 620 гадоў з часу заснавання.

**17 – Канстанцін Ельскі** (1837, Чэрвен. р-н – 1896), вучоны, біёлаг, геолаг, географ, падарожнік – 170 гадоў з дня нараджэння.

## У 2007 годзе спаўняецца

**430 гадоў** – наданню магдэбургскага права Магілёву і Уле (цяпер г.п. у Бешанковіцкім раёне)

**420** – Жыровіцкаму Свята-Успенскаму мужчынскаму манастыру (1587)

**290** – Налібоцкай шкляной мануфактуры (1717)

**270** – Урэцкай шкляной мануфактуры

**100** – выдавецтву «Нашай Нівы» (Вільня; 1907–1913)

**100** – Першай беларускай трупе І. Буйніцкага (1907–1913)

**80** – бібліятэцы імя Я. Купалы ў в. Вялікая Кракотка (Слонімскі р-н, 1927)

**80** – Гродзенскаму заалагічнаму парку (старэйшы на Беларусі, 1927)

**80** – Інстытуту земляробства і селекцыі НАН Беларусі (Мінск, 1927)

**80** – Тураўскаму краязнаўчаму музею (1927)

**80** – літаратурнаму часопісу «Узвышша» (Мінск, 1927)

**75** – Інстытуту праблем выкарыстання прыродных рэсурсаў і экалогіі НАН Беларусі (Мінск, 1932)

**75** – Цэнтральнаму батанічнаму саду НАН Беларусі (Мінск, 1932)

**60** – Мінскаму дзяржаўнаму мастацкаму вучылішчу імя А. Глебава (1947)

**50** – Беларускаму камітэту славістаў (1957)

**40** – Гродзенскаму гісторыка-археалагічнаму запаведніку (1967)

**25** – Дастоеўскаму літаратурна-краязнаўчаму музею (1982)

**25** – фальклорнаму ансамблю «Крупіцкія музыкі» (Мінскі р-н, 1982)

**10** – Лунінскаму біялагічнаму заказніку (Лунінецкі р-н, 1997)

**10** – ландшафтнаму заказніку ў Старыцы (Быхаўскі р-н, 1997)

**10** – гідралагічнаму заказніку ў Сэрвачы (Докшыцкі і Глыбоцкі р-ны, 1997)

**10** – ландшафтнаму заказніку ў Чырвоным Боры (Расонскі і Верхнядзвінскі р-ны, 1997)

## Крыжаванка «Берасцейшчына»



### Уздоўж

**5**. Беларускі спартсмен (цяжкая атлетыка), ураджэнец г. Маларыта. 19-разовы рэкардсмен свету, чэмпіён XXII Алімпійскіх гульняў, чэмпіён свету (1980, 1991). **6**. Рака, левы прыток Прыпяці. **7**. Адтопленае свіное сала. **9**. Беларускі харавы дырыжор, фалькларыст, Герой Сацыялістычнай Працы, народны артыст Беларусі і СССР. Ураджэнец Пружанскага раёна. **10**. Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр авіяцыі, заслужаны палярны лётчык, удзельнік ВАВ. Вызначыўся ў 1937 г. у час дастаўкі Папанінскай навуковай станцыі на Паўночны полюс. Ураджэнец г. Брэста. **12**. Беларускі скульптар, народны мастак Беларусі, прафесар, адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» (1971). **14**. Драма ў 5 дзеях вядомага драматурга, празаіка, рэжысёра, акцёра У. Галубка, ураджэнца г. Баранавічы. **19**. Назва гасцініцы ў г. Брэсце. **20**. Раённы цэнтр, вядомы з XV ст. **21**. Зімовае свята народнага календара, якое адзначаецца 15 лютага. Другая назва – Стрэчанне. **22**. Старажытная назва насельніцтва, якое жыло на поўдні Берасцейшчыны. **27**. Дрэва-экзот, адзінае на Беларусі, расце ў Брашэвіцкім лясніцтве Драгічыншчыны. Помнік прыроды рэспубліканскага значэння. **30**. Рака, левы прыток Прыпяці. **31**. Вёска ў Пінскім раёне, дзе знаходзіцца музей рускага паэта А. Блока, які ў 1916–1917 гг.быў на Піншчыне. **32**. Сукупнасць дзеянняў, якімі суправаджаецца выкананне рэлігійных рытуалаў або бытавых традыцый. **33**. Марское двухмачтавае парусное судна XVIII–XIX стст. **34**. Савецкі авіяканструктар, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, доктар тэхнічных навук. У 1918–1920 гг. выкладаў матэматыку ў Лунінцы, у чыгуначным вучылішчы. **35**. Вёска ў Столінскім раёне, вядомая майстрамі-разьбярамі. Дзейнічае этнаграфічны музей.

### Упоперак

**1**. Часопіс на польскай мове, які выдаваў у 1841–1851 гг. пісьменнік, гісторык Ю.І. Крашэўскі, дзяцінства якога прайшло ў в. Доўгае каля Пружан. **2**. Герой Савецкага Саюза, адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці. Ганаровы грамадзянін г. Брэста. **3**. Ганчарнае мастацтва, якім з даўніх часоў славіцца г.п. Ружаны Пружанскага раёна. **4**. Старажытны горад, які ў 2006 г. адзначыў сваё 730-годдзе. **6**. Жалезны нос у зямлю ўрос (загадка). **8**. ...-волаты. Дрэвы, помнікі прыроды рэспубліканскага значэння. Знаходзяцца ў в. Кажан-Гарадок, у Маларыцкім і Пажэжынскім лясніцтвах. Узрост дрэў ад 400 да 800 гадоў. **11**. Археолаг, краязнавец, педагог XIX ст. Займаўся раскопкамі курганаў на Брэстчыне, Гродзеншчыне, Магілёўшчыне. **13**. Мысліцель-атэіст, педагог XVII ст. Аўтар рукапіснага твора «Аб неіснаванні бога». Ураджэнец Брэстчыны, вучыўся ў Брэсцкім езуіцкім калегіуме. **15**. Імя нянькі рускага паэта А.С. Пушкіна, ураджэнкі Кобрыншчыны. **16**. Ста-радаўняя гаспадарчая пабудова для прасушкі збажыны, канапель, ільну. **17**. Цяслярская сякера для часання дрэва (спец.). **18**. ...-Гарадок. Горад у Столінскім раёне, вядомы з пачатку XII ст. **23**. Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант інжынерных войск, прафесар, доктар ваенных навук. У 1911–1914 гг. кіраваў рэканструкцыяй Брэсцкай крэпасці. Закатаваны ў канцлагеры Маўтаўзен. **24**. Іншая назва Брэсцкай крэпасці. **25**. Неабходны прадукт харчавання, музей якога знаходзіцца ў в. Расна Камянецкага раёна. **26**. Паезд-ка, адпраўленне куды-небудзь. **28**. Назва г. Пружаны да 1589 г. **29**. Вёска ў Пружанскім раёне, дзе дзейнічае музей беларускага паэта М. Засіма. Вёска – радзіма паэта.

*Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск*

## Сусветны дзядзінец

**1498 г.** Х. Калумб упершыню пабачыў Паўднёвую Амерыку, якую палічыў за невялікі востраў.

**1543 г.** М. Капернік тайна і доўга рыхтаваў сваю кнігу па новых поглядах у астраноміі. У гэты год неўзабаве перад смерцю паспеў патрымаць яе, выдадзеную, у сваіх руках.

**1752 г.** Сцвярджэнне правабаковага руху. Вядомы на гэты конт спецыяльны ўказ расійскай імператрыцы Елізаветы.

**1856 г.** Патэнтуецца акардэон (Э. Фас).

**1901 г.** У Парыжы на чыгуначных вакзалах з'явіліся першыя ў свеце грамадскія тэлефоны.

**1922 г.** У Берліне адбыўся першы ў свеце сеанс гукавога кіно.




## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВКЛ** *(працяг)*. Шляхі ўключэння ў склад дзяржавы новых зямель да Вітаўта і пры ім былі розныя, але ў асноўным пераважалі мірныя пагадненні з феадаламі. Гэта спрыяла як дзяржаве, так і буйным яе землеўласнікам абараніцца ад чужаземнай агрэсіі, міжусобіц і развіваць прамысловасць, гандаль, навуку і культуру.

Палітычнае жыццё. Яго вызначалі розная канфесійнасць насельнікаў, іхні грамадска-сацыяльны стан, а таксама і блізкія суседзі. Ратуючыся ад апошніх, асабліва ад крыжакоў, у 1385 г. ВКЛ пайшло на саюз з Польшчай, што, зразумела, не магло не ўзмацніць пазіцыі каталіцызму. Гэта выклікала ў многіх незадаволенасць (у роднага брата караля Польшчы і вялікага князя ВКЛ Андрэя Альгердавіча, Вітаўта і інш.). Узмацняецца ўлада Вітаўта, які пасля 1392 г. стаў пажыццёвым вялікім князем ВКЛ і мог весці незалежную ад Польшчы знешнюю і ўнутраную палітыку. У 1410 г. аб'яднаныя іхнія сілы (з дапамогай рускіх і татарскіх палкоў) у бітве пад Грунвальдам разграмілі крыжакоў і на стагоддзі запынілі іхнюю агрэсію. Гэта дало магчымасць звярнуць большую ўвагу на Усход і Поўдзень, уступіць у працяглыя спрэчкі і войны з амацнелай пасля вызвалення ад мангола-татарскай няволі Маскоўскай дзяржавай, якая пачала супернічаць з ВКЛ па злучэнні пад сваёй эгідай усіх усходнеславянскіх, праваслаўных зямель. У выніку і ВКЛ, і Польшча (саюзная Рэч Паспалітая) будуць абяскроўлены войнамі з Масковіяй, шведамі, крымскімі татарамі і, аслабелыя, у канцы XVIII ст. страцяць сваю незалежнасць. Беларускія землі апынуцца ў складзе Расійскай імперыі і замест каталізацыі і паланізацыі пачнуць «праходзіць курс» не менш жорсткай русіфікацыі.

Дзяржаўны лад. Афіцыйна ВКЛ было манархіяй, якой кіраваў вялікі князь. Пасля смерці ў 1430 г. Вітаўта пачала набіраць моц Рада ВКЛ. Сфармаваўся вальны сойм, што да канца XVI ст. меў важныя заканадаўчыя функцыі: на ім вырашаліся самыя важныя пытанні жыццядзейнасці дзяржавы. На месцах існавалі соймікі. Асобныя фукцыі кіравання выконвалі маршалак, падскарбі, канцлер, гетман, намеснікі, ваяводы, старосты, кашталяны (пра іхнія ўладнасць і ролю мы асобна пісалі ў рубрыцы «Кароткі слоўнік...»). У ніжэйшым звяне кіравання былі дзяржаўцы, валасныя старасты, соцкія, дзесяцкія. Напачатку на беларускіх землях аўтаномнымі заставаліся Полацкая і Віцебскія землі і асобныя княствы (Слуцкае, Кобрынскае, Клецкае і інш.). Падзел у 1413 г. ВКЛ на ваяводствы садзейнічаў цэнтралізацыі дзяржавы. У другой палове 1560-х гг. у ёй было 13 ваяводстваў. Розныя прывілеі, Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 гг. аднымі з першых у Еўропе сістэматызавалі яго законы.

*(Працяг артыкула будзе)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 25.01.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 64
Тыраж 1450 асобнікаў.